

Старажытны Полацк з'яўляецца калыскай беларускай дзяржаўнасці, духоўнасці і культуры. Знаходзячыся ў цэнтры Еўропы, ён пастаянна аказваўся ў гушчы культурных падзей. Таму наяўнасць у яго культурным арсенале Мастацкага музея ці галерэі – гэта з'ява традыцыйная. Першая вядомая нам галерэя была адкрыта ў Полацкім езуіцкім калегіуме яшчэ ў 1788 г. Для размяшчэння галерэі, бібліятэкі і музея быў спецыяльна спраектаваны і пабудаваны Габрыэлем Груберам трохпавярховы будынак. У галерэі былі прадстаўлены палотны П.П. Рубенса, Сальватора Розы, Шымана Чаховіча, копіі з работ Тыцыяна, Рафаэля, больш за 2000 гравюр і вялікая колькасць партрэтаў вядомых людзей, звязаных з гісторыяй ордэна і калегіума.

У галерэю траплялі творы прыезджых мастакоў, выкладчыкаў калегіума, а затым і акадэміі, а таксама найбольш таленавітых выхаванцаў езуітаў. Мастацкія творы, і ў першую чаргу партрэты, захоўваліся не толькі ў езуітаў, але і ў храме дамініканскага ордэна, які меў у Полацку свой кляштар. Вядома, што ў зборах Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь ёсць партрэты дамініканскіх святых з Полацка, у тым ліку і партрэт Іосіфа Прозара.

У пачатку XX ст. мастацкія каштоўнасці свабодна перамяшчаліся па волі наркаматаў і асобных людзей, у гады Вялікай Айчыннай вайны многія калекцыі былі разрабаваны, пасля вайны мастацкія каштоўнасці стараліся сабраць у буйнейшых музеях СССР, што пазбавіла невялікія гарады магчымасці выстаўляць работы вядомых майстроў, якімі яны ў свой час валодалі.

У 1948 годзе ўзнавіў сваю дзейнасць Полацкі краязнаўчы музей. Ад даваеннай калекцыі амаль нічога не захавалася, і камплектаванне фондаў творамі мастацва было пачата практычна з нуля. Першыя паступленні ў пэўнай ступені насілі выпадковы характар – гэта передача работ праз Міністэрства культуры з ДММ РБ, Аддзяленне Віцебскіх мастацка-вытворчых майстэрняў, передача з закрытых цэркваў і касцёлаў, ад прыватных асоб, закупкі. Многае з перададзенага насіла гістарычны характар, але былі і каштоўныя творы культавага мастацтва, і цудоўныя работы беларускіх мастакоў.

Гэта сем унікальных абразоў уніяцкага пісьма: «Стрэчанне», «Троіца старазапаветная», «Узнясенне», «Цуда Св. Георгія аб змеі» і г.д. З Глыбоцкай царквы перададзены тры каталіцкія абразы з выявамі святых Антонія Падуанскага, Яна Непамука і Апостала Фамы, якія адносяцца да XVII стагоддзя. З касцёла ў Лужках перададзены 4 пано з манаграмай Ісуса Хрыста (1853) і выявай букетаў кветак у вазе, а таксама два партрэты XVIII стагоддзя, створаныя невядомым майстрам. У партрэтнай галерэі XVIII стагоддзя асобнае месца адводзіцца «Партрэту Альжбеты Агінскай Пузыны» (1760), які ў 1971 годзе паступіў з касцёла, пабудаванага ордэнам езуітаў у 1766 годзе ў гонар Апостала Св. Тадэвуша ў мястэчку Лучаі. Мяркуецца, што партрэт мог быць напісаны мастаком з Полацка.

*Вялікая колькасць твораў жывапісу, графікі і скульптуры перыяду станаўлення сацыялістычнага рэалізму ў мастацтве Беларусі 60–70-х  гадоў паступіла з ДММ Рэспублікі Беларусь. Перададзены пейзажы М. Даўгялы, І. Карасёва, П. Данеліі, С. Каткова, скульптуры З. Азгура, А. Глебава, графіка Г. Паплаўскага, А. Кашкурэвіча, В. Шаранговіча і інш. Музеем была набыта серыя з сямі работ «Архангельскага цыклу» (1936 – 1944) В.К. Бялыніцкага-Бірулі, класіка рэалістычнага жывапісу.*

*Калекцыі, што ўвайшлі ў збор прадметаў мастацкага значэння, вельмі разнастайныя. Яны пастаянна фарміруюцца, вывучаюцца, апрацоўваюцца, і па меры магчымасці, папаўняюцца. Так, напрыклад, у археалагічнай калекцыі, якая ўключае матэрыялы археалагічных раскопак, якія пастаянна праводзяцца ў горадзе, прадстаўлены абразок «Канстанцін і Алена» і крыж-энкалпіён XII стагоддзя. Частку збору складае калекцыя медналітой пластыкі. Яна ўключае ў сябе розныя тыпы нагрудных абразкоў, складняў, крыжы, машчавікі, панагіі, адлітыя з медных сплаваў у тэхніцы рэльефу, якія бытавалі ў асяроддзі стараабрадніцтва.*

*Пачатак мэтанакіраванага фарміравання калекцый адносіцца да 1980 года і звязаны з адкрыццём выставачнай залы ў будынку Богаяўленскага сабора, помніка архітэктуры XVIII стагоддзя. Апрача выставак работ беларускіх мастакоў, праводзіліся выстаўкі жывапісу, графікі і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва мастакоў з Расіі, Латвіі, Германіі, Польшчы. У пачатку 90-х гадоў прайшлі некалькі выставак мастакоў аб'яднання «Няміга 17», якія даволі ярка заявілі пра сябе. У гэты перыяд была сфарміравана калекцыя жывапісных работ гэтага аб'яднання. У фондах захоўваецца 9 работ А. Кузняцова, частка з якіх падаравана аўтарам, А. Малішэўскага, Н. Бушчыка, Л. Хобатава, С. Кірушчанкі, О. Мацієвіча, творчасць якіх дазваляе гаварыць аб галоўнай тэндэнцыі ў беларускім жывапісе – аб колерапластыцы. У калекцыю набываліся работы таленавітых мастакоў: З. Літвінавай, С. Катковай, В. Цвіркі, А. Марачкіна, І. Басава, Г. Гаравой, А. Кашкурэвіча, Ю. Якавенкі і многіх іншых. Паралельна вялася работа па фарміраванні калекцыі твораў мастакоў-палачан аб'яднання «4-63» – А. Канавалава, А. Ладзісава, В. Васільева і Г. Васільевай, а таксама мастакоў Віцебскага рэгіёна. Побач з перададзенымі раней творамі А. Каржанеўскага, А. Тоўкача, В. Кухарава і іншых калекцыя Віцебскага рэгіёна папоўнілася работамі А. Салаўёва, А. Арлова, В. Шылко, А. Скавародкі, І. Сталярова, Г. Шутава, Ф. Гумена, В. Ляховіч, Л. Мядзведскага. У фондах музея, акрамя графічных лістоў і прадметаў ДПМ, захоўваецца 16 жывапісных твораў Н. Шчаснай. Жаданне сфарміраваць збор, здатны больш поўна прадставіць розныя працэсы, што адбываюцца ў мастацтве Беларусі XX стагоддзя, вяло да неабходнасці пошукавай работы. Былі набытыя творы М. Станюты, П. Масленікава, Я. Драздовіча.*

*На дадзены момант у калекцыях выяўленчага мастацтва фондаў НПГКМЗ захоўваецца больш за 700 твораў іканапісу, культавых прыкладных прадметаў, жывапісу, графікі, дэкаратыўнага мастацтва, скульптуры. Сабраныя і прадстаўленыя ў пастаяннай экспазіцыі, яны даюць агульнае ўяўленне аб культуры розных часавых перыядаў і тых накірунках у мастацтве Беларусі,  якія характарызуюць XX стагоддзе, якому ўласцівы эксперымент і рэтраспекцыя, элементы інсіту і пошукі стылістычнага характару, канцэптуальныя рашэнні і выхад на выкарыстанне новых тэхналогій.*

*Вялікую дапамогу ў фарміраванні паўнацэннай калекцыі, здольнай адлюстраваць паэтапнае развіццё беларускага мастацтва, аказаў Беларускі саюз мастакоў, які даў магчымасць доўгатэрміновага паказу твораў са сваіх фондаў.*

*Ларыса Лысенка,*
*загадчык Мастацкай галерэі*



# СЦЕНАПІС XII–XIX СТАГОДДЗЯЎ СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЙ ЦАРКВЫ

Спаса-Праабражэнская царква размяшчаецца на тэрыторыі Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра, што знаходзіцца на беразе ракі Палаты, за 2 км ад Верхняга замка. Сёння яна ўяўляе сабой храм XII ст., дапоўнены надбудовамі XVII – XIX стст.

Спасаўская царква была пабудавана каля 1161 г. па замове Еўфрасінні Полацкай дойлідам Іаанам. Гэта невялікі візантыйскі шасціслуповы аднакупальны храм, перакрыты скляпеннямі і шырокімі падпружнымі аркамі, які мае нартэкс і размешчаныя на другім паверсе хоры, куды вядзе вузкая лесвіца ўнутры сцяны. Храм у плане мае даўжыню 14,4 м і шырыню каля 10 м. Памер падкупальнай прасторы і, адпаведна, цэнтральнага нефа – 3 м, тады як бакавыя нефы аказваюцца ўдвая вузейшымі. Галоўнай характарыстыкай як інтэр'ера, так і знешняга аблічча Спасаўскай царквы, з'яўляецца вертыкалізм яе кампазіцыі. Падпружныя аркі аказваюцца амаль удвая шырэй за скляпенні, што вызначаецца і іх канструктыўнай роляй, і кампазіцыйнай значнасцю. Яны і ствараюць тую прасторавую дамінанту, якая вызначае накіраванасць уверх. У той жа час магутнасць апор і падпружных арак тлумачыцца павышанай нагрузкай, якая кладзецца на іх з-за прысутнасці знадворку ў верхняй частцы храма дадатковых дэкаратыўных элементаў у выглядзе другога рада трохлопасных какошнікаў, што з'яўляецца самай яркай архітэктурнай асаблівасцю Спасаўскай царквы. Гэтая дэкарацыя ўносіла ў яе аблічча новыя інтанацыі, робячы яе падобнай да храма-рэлікварыя, унутры якога і павінны былі захоўвацца тыя бясцэнныя рэліквіі, якія паводле загаду прападобнай былі прывезены ў Полацк і змешчаны ў каштоўны крыж. Тэма і вобраз крыжа акцэнтаваны і ў саміх архітэктурных формах храма, і выразна паўтараюцца ў дзвюх малых келлях на хорах храма, у якіх здзяйснялі свае малітоўныя подзвігі сама Еўфрасіння і яе сястра Еўдакія.

Адной з ярчэйшых асаблівасцей гэтага выдатнага помніка з'яўляецца роспіс XII ст., што захаваўся практычна ў поўным аб'ёме. На дадзены момант цалкам раскрыты фрэскі ў верхняй зоне храма. Скуф'ю купала займае «Узнясенне», у ветразях прадстаўлены чатыры евангелісты, на падпружных арках размешчаны манументальныя фігуры чатырох пракрокаў і двух першасвятароў. На алтарных слупах – падзеленае на дзве часткі «Дабравешчанне», а пад ім – гэтак жа падзеленае «Стрэчанне». У люнетах паўночнай і паўднёвай сцен раскрыты вялізныя кампазіцыі «Распяцце» і «Сашэсце ў пекла», а ў розных зонах храма цалкам ці часткова расчышчана некалькі сцэн евангельскага цыкла – «Уваход у Ерусалім», «Хрыстос вылечвае пракажонага», «Прызванне Хрыстом Закхея». Акрамя таго, цалкам раскрыта некалькі фігур святых (Мікіта, Яўстафій, Іаан, Кір, Ермалай), а ў ніжняй зоне адкрыты шматлікія выявы прападобных і святых жанчын.

Ансамбль фрэсак Спаса-Праабражэнскай царквы прадстаўляе сабой абсалютна ўнікальную з'яву ў культурнай спадчыне Русі. Нават нягледзячы на тое, што значная частка сцен працягвае быць закрытай познімі маслянымі роспісамі XIX ст., відавочна, што старажытны роспіс захаваўся практычна па ўсёй паверхні ўнутраных сцен храма. Аб гэтым сведчаць як ужо цалкам раскрытыя ўчасткі сценапісу, так і зандажы, зробленыя рэстаўратарамі ў розных частках храма. Акрамя таго, старажытныя фрэскі XII ст. праглядаюцца ў шматлікіх асыпках позняга маслянага жывапісу.

Апрача асноўнага аб'ёму сабора, старажытныя фрэскі захаваліся ў невялікай капэле, якая знаходзіцца ў паўднёва-заходнім аб'ёме храма на ўзроўні хораў. Гэта так званая малельня Еўфрасінні, якая ўяўляе сабой маленечкае крыжападобнае ў плане памяшканне, перакрытае купальным скляпеннем. Уся яе ўнутраная прастора цалкам распісана, і зараз фрэскі напалову раскрыты. Гэтыя фрэскі ўяўляюць сабой цалкам адасоблены ансамбль, які валодае ўласнай праграмай, не звязанай з асноўным аб'ёмам сабора, і, без сумненняў, адрозніваецца ад яго па часе стварэння.

*Урывак з кнігі У. Д. Сараб'янава*
*«Фрески Спасо-Преображенской церкви». М., 2007*



Прарок Захарыя.
*Фрагмент сценапісу.*
*XII–XVIII–XIX стст.*

*на стар. 11*
Фрэскавы роспіс барабана.
*Рэканструкцыя*
*У. В. Ракіцкага*







Сашэсце ў пекла (*фрагмент*)
*Рэстаўратар У. В. Ракіцкі*

*на стар. 12*
Спас на прастоле.
*XIX ст. (фрагмент)*
*Рэстаўратар В. Сергіеня*



# ІКАНАПІС БЕЛАРУСІ XVIII–XIX стагоддзяў

Невялікі збор абразоў у Полацкім запаведніку дае ўяўленне аб апошнім стагоддзі мастацтва старажытнейшага горада Беларусі. «Святы Мікалай» належыць часу, калі Беларусь адраджалася пасля страшэннага разбурэння чужаземнымі войскамі ў Паўночную вайну. Невыпадкова ў раскрытай кнізе напісана «МИР ВСЕМУ МИРЮ/ С. НИКОЛАЕ», а зверху ляжаць тры залатыя шары. Мікалай стаіць на фоне горада: справа будынак, які па архітэктуры нагадвае ратушу з фасаднай трох'яруснай вежай, злева – грамадзянскія пабудовы, на заднім – плане высокая шмат'ярусная званіца. Аблічча рэальнае, мадэляванае светлаценем, з шырокай сівой барадой і звіслымі вусамі. На фоне – графічны арнамент. На жаль, невядома, для якога храма быў напісаны гэты выдатны абраз.

Яшчэ ў 1960-я гады на супрацьлеглым беразе Дзвіны стаяла Георгіеўская царква ў Экімані (Якімані), якая існавала ўжо ў 1789 г. Вопіс 1854 г. сведчыць, што з яе паходзяць абразы «Узнясенне Гасподне» і «Стрэчанне». Створаны яны ў сярэдзіне XVIII ст. ў стылі нізавога барока, характэрнага для жывапісу ўніяцкіх храмаў Полацка-Віцебскага рэгіёна. На верхнім полі першай кірылічны надпіс: «Вознесся еси на небеса Боже и по всей земли слава Твоя». Воблачная чарада падзяляе зямную і нябесную сферы. Хрыстос у цэнтры наказвае на нябёсы і бласлаўляе Марыю і апосталаў, што засталіся на зямлі. Кніга ля падножжа Елеонскай гары нагадвае пра першакрыніцу паказанай падзеі. «Стрэчанне» збліжаюць з «Узнясеннем» кампазіцыя і тэхніка жывапісу, хоць мадэліроўка адзення больш пластычная, а каларыт багацейшы. Дзеючых асоб больш, чым у звычайнай іканаграфіі сюжэта, размяшчэнне фігур і іх дзеянні больш разнастайныя. Гэта прыкметы ўплыву заходняга жывапісу; магчыма, мастак выкарыстоўваў у кампазіцыі нямецкую або італьянскую гравюру.

Вытанчаным светлым каларытам, які нагадвае жывапіс ракако, вылучаецца «Старазапаветная Троіца». Гэтак жа ўпэўнена майстар валодае малюнкам і кампазіцыяй. Паколькі ўкленчаны Аўраам на пярэднім плане характэрны для школы Кіева-Пячэрскай лаўры, можа быць, што аўтар там вучыўся.

«Цуд Св. Георгія аб змеі» намаляваны гэтак жа прафесійна, аднак з прыкметамі акадэмічнай школы і ў духу позняга барока, гравіраваны арнамент фону нагадвае магілёўскія абразы.

У абразе на палатне «Маці Божая Замілаванне» падкрэслена барочная дынаміка, матэрыяльнасць, кантрасны каларыт. Майстру больш спакойнага барока належыць «Св. Варвара». «Свв. Ганна, Марыя і немаўля Ісус» – сюжэт, які прыйшоў на Беларусь з заходнееўрапейскага жывапісу. Алтарную карціну з каталіцкіх храмаў прадстаўляе кананічная выява Антонія Падуанскага з немаўлём Ісусам.

Сёння калекцыя абразоў, якія знаходзяцца ў зборы Нацыянальнага Полацкага запаведніка, уяўляе навуковую і гістарычную каштоўнасць. Яна паказвае шэраг звёнаў, якія складаюць культавую культуру Беларусі.

*А. А. Ярашэвіч, кандыдат мастацтвазнаўства,*
*вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага*
*мастацкага музея Рэспублікі Беларусь*



Маці Божая
Адзігітрыя.
*XVIII ст.*

Рыза да абраза
«Маці Божая Адзігітрыя».
*XVIII ст.*





Троіца
Старазапаветная.
*Першая палова*
*XVIII ст.*



Цуд Св. Георгія аб змеі.
*Сярэдзіна XVIII ст.*



Стрэчанне.
*Сярэдзіна XVIII ст.*



Св. Мікалай Цудатворца.
*Сярэдзіна XVIII ст.*



Узнясенне Ісуса Хрыста.
*1743*



Святыя Ганна,
Марыя і немаўля Ісус.
*XVIII ст.*



Маці Божая
«Жываносная крыніца».
*XIX ст.*

Тры свяціцелі.
*XIX ст.*



Дванадзесятыя
святы. *XIX ст.*





Падсвечнік. *XIX ст.*

Падсвечнік. *XIX ст.*



Манстранц. *XIX ст.*





Пано.
Кветкі ў вазе.
*XVIII ст.*



Пано. *1853*



*на стар. 27*
Пано. *XVIII ст.*




Мінея на студзень.
*XIX ст.*

Ілля Пророк.
*XVII ст.*





Маці Божая
«Неапалімая купіна».
*XIX ст.*

Маці Божая
«Знаменне».
*XIX ст.*



Маці Божая
«Траеручніца».
*XIX ст.*



Маці Божая
Казанская.
*XVIII ст.*



Маці Божая
Уладзімірская.
*XIX ст.*





Маці Божая
Казанская.
*XIX ст.*



Святы пакутнік
Трыфан. *XIX ст.*



З'яўленне Ціхвінскай Маці Божай
Юрыю Панамару. *XIX ст.*



Мікола Цудатворца. *XIX ст.*





Маці Божая «Усіх смуткуючых радасць». *XIX ст.*



Абклад да абраза «Усіх смуткуючых радасць». *XIX ст.*



Прападобная Еўфрасіння Полацкая. *XIX ст.*



Святы
Аляксандр Неўскі.
*1863*

Альжбета
Агінская Пузына.
*1760*





# МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ
## ХХ стагоддзя

У пачатку 1980-х гадоў беларускае мастацтва яшчэ па-ранейшаму «развіваецца» роўна, без усялякіх усплёскаў і супярэчнасцей. Але гэтае ўражанне было зманлівым, а на самой справе – адчувалася супрацьстаянне, якое праяўлялася перш за ўсё ў адмаўленні ўсяго, што не ўкладвалася ў паняцце «сацрэалізм».

У той «праславуты» час, калі камуністычныя ідэолагі яшчэ актыўна вялі барацьбу з фармалізмам, у Полацку (люты 1981 г.) у Богаяўленскім саборы адкрываецца карцінная галерэя, якая ў процівагу афіцыйнаму мастацтву не толькі экспануе творы іншай накіраванасці, але і калекцыяніруе іх, і ўсяляк прапагандуе.

Менавіта тут, у Полацку, атрымалі першае прызнанне такія творчыя аб'яднанні як «Няміга-17», «4-63» і інш.

Дастаткова ўзгадаць такія імёны, дзякуючы якім беларускае мастацтва ХХ стагоддзя стала не толькі больш цікавым і разнастайным, але і атрымала магутны імпульс для далейшага развіцця: А. Салаўёў, А. Арлоў, А. Малішэўскі, З. Літвінава, Г. Гаравая, Л. Хобатаў, С. Кірушчанка, А. Кузняцоў, Н. Бушчык, А. Маціевіч, М. Барздыка, Г. Шутаў, В. Правідохін (Хін), В. Славук, С. Балянок, Ю. Якавенка, А. Зайцаў, А. Мемус, Ф. Гумен, В. Ляховіч, А. Канавалаў, Л. Мядзведскі, В. Шылко, Л. Густава, У. Савіч, С. Цімохаў, А. Ксяндзоў і інш.

Паралельна калекцыя папаўняецца творамі такіх мастакоў, імёнамі якіх ганарацца лепшыя зборы мастацтва Беларусі: В. Бялыніцкі-Біруля, В. Цвірка, Л. Шчамялёў, Г. Вашчанка, І. Карасёў, А. Бархаткоў, С. Каткоў, І. Басаў, А. Каржанеўскі, І. Дзьмухайла, Л. Ран, А. Паслядовіч, А. Кашкурэвіч, Г. Паплаўскі.

7 верасня 2002 года ў сценах адрэстаўраванага езуіцкага калегіума пачалася навейшая гісторыя карціннай галерэі. Зараз яна называецца Полацкая мастацкая галерэя, якая мае ў сваім зборы калекцыі абразоў, жывапісу, графікі, скульптуры, аб'ектаў актуальнага мастацтва.

Полацкая мастацкая галерэя за 30 год сваёй актыўнай плённай працы ўпісала нямала выдатных старонак не толькі ў гісторыю выяўленчага мастацтва горада Полацка, Віцебскай вобласці, але і ў гісторыю выяўленчай культуры Беларусі.

Можна з упэўненасцю сказаць, што менавіта ў Полацку знаходзіцца лепшы збор выяўленчага мастацтва нашай краіны, які запаўняе «белыя плямы» дваццаці год мінулага стагоддзя (1975–1995).

Калекцыя з гадамі, як добрае віно, становіцца толькі лепей. Час – гэта самы выдатны «ап'яняльны напой» – мяняе і творы мастацтва, і нашы адносіны да іх у лепшы бок; і менавіта ў гэтым і заключаецца, напэўна, невытлумачальная таямніца і прыцягальная сіла мастацтва.

*Мікалай Паграноўскі, мастацтвазнаўца,*
*дырэктар ДУ «Гісторыка-культурны*
*музей-запаведнік «Заслаўе»*



Я. Н. Драздовіч.
Краявід з цягніком.
*1937*



Я. Н. Драздовіч.
Мужык з панам цягаецца.
*1935*



В. К. Бялыніцкі-Біруля.
Кандалакша. *1940*



В. К. Бялыніцкі-Біруля.
Лотаць зацвіла. *1940*



А. К. Глебаў.
Геадэзістка.
*1958*



Я. Я. Красоўскі.
Камяні. *1955*



М. В. Дучыц.
Ставок. *1957*



А. С. Карржанеўскі.
Цёплы вечар. *1958*



А. І. Тоўкач.
Полацк.
*1961*



В. Г. Кубараў.
Лес ідзе.
*1964*



С. П. Каткоў.
Краявід. *1959*



І. В. Карасёў.
Гадзіна цішыні. *1968*



І. В. Карасёў.
Восень. *1960*



С. П. Каткоў.
Раніца над Сожам.
*1969*



Л. Д. Шчамялёў.
Чарада авечак.
*1985*



А. С. Шатэрнік.
Дрыгавічы. *1984*



П. С. Крахалёў.
Дзяўчаткі. *1963*



А. С. Каржанеўскі.
Новы Полацк. *1960*



Р. У. Кудрэвіч.
Вечар у Баня Лука.
*1970*



В. К. Цвірка.
Нацюрморт з айвой. *1982*



В. К. Жоўтак. Беларускі нацюрморт. *1980*



З. В. Ліцвінава. На Прыпяці. *1982*



С. С. Каткова. Жнівень. *1980*





А. В. Кузняцоў. Сухія кветкі. *1990*



Я. А. Мацяеўская.
Бэз. *1970*



Н. І. Шчасная.
Лета ў кішлаку. *1963*



Н. І. Шчасная.
Бухара. *1970*



Н. У. Бушчык.
Ноч. *1988*



А. А. Малішэўскі.
Краявід. *1980*



У. А. Тоўсцік.
Спадчына.
*1989*

А. М. Кішчанка.
Жанчына з лімонамі.
*1990*





А. С. Цімохаў.
Несці крыж. *1992*



А. В. Канавалаў.
Востраў. *1990*



*на стар. 80*
А. А. Скавародка.
Раніца. *1993*



М. І. Таранда. Карпаты. *1998*



У. І. Пракапцоў.
Святы дзень. Полацк. *2007*



А. В. Жураўлёў.
Зіма. *2007*



П. У. Вайніцкі.
Рыба. *1974*



Г. А. Гаравая.
Двое. *2003*



К. В. Селіханаў.
Веласіпедзіст. *2003*



Р. П. Вашкевіч.
Манія праследавання. *1996*





*на стар. 84*
Л. Л. Мядзведскі.
Краявід. *2010*

Г. А. Гаравая.
Роздум. *1991*





Ф. А. Ястраб.
Легенда. *2006*



Р. А. Данелян.
Сустрэча. *2000*



Б. В. Аракчэеў.
Сажалка. *1980*



А. М. Сільвановіч. Куфаль. *2007*



У. І. Панцялееў.
Птушка. *2007*



Г. С. Васільева.
Прысвячэнне. *2003*



І. І. Курачыцкі.
Грэцыя. *1999*

Я. С. Мусінская.
Ракавіна. *1992*



*на стар. 101*
Л. М. Густава.
Букет. *1999*





З. У. Баўтрук.
Ружы. *1992*

А. Я. Дзятлава.
Архідэі. *1991*



А. Я. Дзятлава.
Прыбой. *1992*



Я. С. Мусінская.
Ваза. *1992*





В. В. Лук’яненка.
Нацюрморт з гранатам.
*2009*



Б. А. Скрамблевіч.
Яблык. *1987*



В. Р. Прыешкін.
Палігон.
*1981*



А. А. Паслядовіч.
У майстэрні. *1986*



А. М. Кашкурэвіч.
Шпацыр. *1988*



Г. Г. Паплаўскі.
Васіль Быкаў. *1987*



Л. С. Ран.
Капліца XIX ст.
Пінск. *1968*



Н. М. Паплаўская.
Гарадок. *1970*



С. П. Герус.
*Рака Нёман. 1966*



Л. Э. Артэга.
Амстэрдам. *1983*



К. У. Селіханаў.
Праекцыя 1. *2005*



Ю. У. Якавенка.
Д. Ф. Е. *2008*



А. М. Кашкурэвіч.
Смага. *1984*



В. П. Шаранговіч.
Ганчар. *1973*



В. В. Баранаў.
Развітанне. *1989*



У. М. Вішнеўскі.
Нібы птушка.
*1987*



Р. С. Сітніца.
Язэп Драздовіч.
*1987*



І. М. Басаў.
Вёска Кабыльнікі.
*1988*






М. С. Басалыга.
Грунвальдская бітва.
*1991*

*на стар. 120*
У. С. Басалыга.
Замак у Міры. *1980*



В. А. Правідохін.
Апостал Пётр.
*2002*



А. А. Салаўёў.
Памяці загінуўшых.
*1988*

Л. С. Анцімонаў.
Кветкі палявыя.
*1974*





Г. Х. Вашчанка.
Узлесак. *1974*



В. К. Цвірка.
Яры. *1982*



В. П. Савіч.
Справы пчалярскія.
*1986*



В. М. Лук'янаў.
Нацюрморт з рамонкамі.
*1983*



Г. Ф. Шутаў.
Нацюрморт з яблыкамі.
*1996*

*на стар. 129*
В. А. Ляховіч. Разбураныя
храмы Віцебска. *1989*





З. В. Літвінава.
Сканцэнтраванне. *1987*



Ф. Ф. Гумен.
Вуліца ў Рызе. *1981*



С. С. Каткова.
Пеўчае свята
ў Кохтла-Ярве.
*1986*



В. Г. Паўлавец.
Ноч. *1991*



В. К. Зайцаў.
Ваза. *2008*



А. Г. Арлоў. Рыга. *1970*



Н. Анфалава. Мора. Грэцыя. *(Расія)*



У. Серабрякоў. Макі. *(Расія)*



Ю. Жыжын. Бераг Чарнагорыі. *(Украіна)*

## Міжнародная біенале акварэлі ў Полацку



З. Рэўчук. Лідар, які будуе піраміды. *(Расія)*



А. Кастагрыз. Бабіна лета. *(Беларусь)*



А. Фёдараў. У рэчышчы часу. *(Расія)*





Удзельнікі міжнароднай біенале акварэлі «Вада + фарба» ў Полацку



Я. Спалвіньш. Маё мора. *(Латвія)*

## Міжнародная біенале акварэлі «Вада+фарба» ў Полацку

## 2009



Е. Спалвіня. Прыйшоў, пайшоў. *(Латвія)*



А. Фалей. Крык. *(Беларусь)*



В. Шаюнава. Палёт. *(Расія)*



Ю. Шэўчык. Вітамін С. *(Расія)*



А. Канавалаў. Вада. *(Беларусь)*

«Art-ego»





П. Вайніцкі *(Беларусь)*



М. Малінаўскас *(Літва)*



## І-ы Полацкі міжнародны пленэр візуальных мастацтваў «Art-ego»





Г. Раманава *(Беларусь)*



Л. Леўшынаў *(Беларусь)*



...... 2010



## І-ы Полацкі міжнародны пленэр візуальнага мастацтва «Art-ego»





Н. Залозная *(Беларусь)*





К. Сумарава *(Беларусь)*





І. Шмідціене *(Літва)*

«Art-ego»





А. Канавалаў
*(Беларусь)*



Е. Спалвіня
Я. Спалвіньш *(Латвія)*



## І-ы Полацкі міжнародны пленэр візуальнага мастацтва







В. Зайцаў *(Беларусь)*



Л. Мядзведскі
*(Беларусь)*



2010



## І-ы Полацкі міжнародны пленэр візуальнага мастацтва «Art-ego»



2010



В.Стасевіч
*(Беларусь)*



У. Савіч
*(Беларусь)*



«Art-ego»







Л. Йоніке
*(Літва)*



А. Жураўлёў
*(Беларусь)*





## Змест



# МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ Ў ПОЛАЦКУ

ЭКСПАЗІЦЫЯ • 2

Аўтар-укладальнік
***Лысенка*** *Ларыса Міхайлаўна*

Выданне падрыхтавана
па заказу Нацыянальнага Полацкага
гісторыка-культурнага музея-запаведніка
і Упраўлення культуры Віцебскага абласнога
выканаўчага камітэта

211400, Беларусь,
г. Полацк, вул. Ніжне-Пакроўская, 22,
Тэл./факс (8 0214) 42 51 10;
www.polotsk.muzeum.by

211400, Беларусь,
г. Полацк, вул. Стралецкая, 4а,
Тэл./факс (8 0214) 42 41 35
www.gallery.polotsk.muzeum.by

Фота *С. М. Плыткевіч, У. В. Шуба*
Дызайн і вёрстка *А. Г. Дашкевіч*
Карэктары *Т. А. Джумантаева, М. У. Сульдзіна*
Пераклад на беларускую мову
*В. Я. Ашуева*

Рэкламна-выдавецкае
ўнітарнае прадпрыемства «Рыфтур»
220004, Беларусь,
г. Мінск, пр. Пераможцаў, 19а
Тэл. (017) 226 94 90, 203 27 14
E-mail: print@tio.by

Ліцэнзія №02330/0494305
ад 02.03.2009 г. выдадзена
Мінінфармацыі Рэспублікі Беларусь

Друкарня «Джи энд Ди»
Ліцэнзія №02330/0150065 ад 15.06.2008
выдадзена Мінінфармацыі Рэспублікі Беларусь
Наклад 1000 экз. Заказ 365